❑ **Іван Шамякін пра рэформу школы: «...незалежна ад таго, якая школа -- беларускамоўная ці рускамоўная, колькасць гадзін на адну і тую ж мову павінна быць аднолькавая».**
2-я стар.

❑ **Вясна і камісія па надзвычайных здарэннях папярэджваюць: паводка не выключана і ў Мінску.**
3-я стар.

# ЗВЯЗДА

1 сакавіка 1996 г. пятніца, № 60 (22863)

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1000 рублёў

## ВОЗГАЛАС

### ПРЫВАТЫЗАЦЫЯ — СПРАВА ВЫГАДНАЯ

**Па ацэнках Сусветнага банка, прыватызацыя ва ўсім свеце з 1988 па 1993 год прынесла 270 млрд. долараў ЗША.**

За маёмасць краін, што сталі на шлях развіцця, выручана 99 млрд. долараў. Трэць гэтай сумы выплацілі замежныя інвестары. Кіраўнік мексіканскай карпарацыі «Гелмекс» Карлас Сміл стаў самым багатым за кошт свайго манапольнага становішча пры прыватызацыі асобных галін прамысловасці — яго маёмасць ацэньваецца ў 6,6 млрд. долараў.

У Беларусі таксама ёсць свае паказчыкі. Напрыклад, агульны кошт аб'ектаў, прададзеных на аўкцыёнах, праведзеных з удзелам Міжнароднай фінансавай карпарацыі, на 1 студзеня гэтага года склаў 4 млн. 429 тыс. амерыканскіх долараў. Але гэта не мяжа, бо ў нас яшчэ ўсё наперадзе.

**Сяргей КУРКАЧ.**

### ЗОРКА СВЕЦІЦЬ ДЫ НЕ ГРЭЕ

**У гомельскім навукова-вытворчым аб'яднанні «Ратон» двайная радасць, якая ...азмрочана.**

Справа ў тым, што калектыву гэтымі днямі прысуджана міжнародная «Брыльянтавая зорка» якасці (такое паведамленне прыйшло са сталіцы Мексікі). А крыху раней на прадпрыемстве атрымалі тэлеграму з Амерыкі аб тым, што «Ратону» прысуджана таксама міжнародная ўзнагарода «Факел Бірмінгама» — за выжыванне і развіццё ў цяжкіх умовах сацыяльна-эканамічнага крызісу.

— Слоў няма, — гаворыць генеральны дырэктар аб'яднання С. Сідорскі, — мы многа папрацавалі па канверсіі і зараз выпускаем складаныя электронныя вырабы, комплексы навукаёмістых вытворчасцей, іншую арыгінальную і патрэбную грамадству прадукцыю сапраўды высокай якасці. Аднак па прызы мы не паедзем.

У чым прычына? Аказваецца, на паездку і цырымонію атрымання ўзнагарод патрабуецца вялікая сума свабодна канверсуемай валюты, якой на перадавым прадпрыемстве ў выніку абвальных працэсаў у эканоміцы, з камароў нос. Так што, як кажуць, зорка свеціць, ды не грэе. Даводзіцца толькі спадзявацца, што гэтыя ўзнагароды з Паўднёвай і Паўночнай Амерыкі ў Гомель прышлюць. А калі не? Не заплачам.

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

### ТРАГІЧНАМУ ЮБІЛЕЮ ПРЫСВЯЧАЕЦЦА...

**У Беларускім дабрачынным фондзе «Дзецям Чарнобыля» поўным ходам ідзе падрыхтоўка да III Міжнароднага кангрэса «Свет пасля Чарнобыля». У гэтым вялікім форуме прыме ўдзел больш як 480 прадстаўнікоў з 20 краін свету, у тым ліку з Расіі і Украіны. У рамках кангрэса ўжо праходзяць грамадскія і медыцынскія канферэнцыі ў розных гарадах Беларусі.**

25-26 красавіка ў 54 раённых і гарадскіх аддзяленнях фонду пройдуць мітынгі, сходы грамадскасці, акцыі салідарнасці; будзе арганізавана пасадка саду Надзеі каля будоўлі храма-помніка ахвярам Чарнобыля «Усіх смуткуючых радасці» ў Мінску па вул. Прытыцкага. Пасля будзе праведзены марш «Чарнобыльскі шлях» з удзелам жыхароў чарнобыльскай зоны, перасяленцаў, ліквідатараў наступстваў ЧАЭС, інвалідаў Чарнобыля і шматлікіх замежных гасцей.

Для інвалідаў Чарнобыля і сем'яў перасяленцаў будзе арганізаваны мемарыяльны вечар і спецыяльная праграма гуманітарнай дапамогі па чарнобыльскіх раёнах Беларусі.

Усе мерапрыемствы прымеркаваны да 10-гадовай гадавіны чарнобыльскай аварыі.

**Наталля ГУСАКОВА.**

### ЯК У ГОРКАХ ЗАХАПІЛІСЯ ЭСТЭТЫКАЙ

**Горацкі райвыканком у адным са сваіх рашэнняў абавязаў уласных фінансістаў адшукаць сродкі для вырабу пераходных знакаў «Прадпрыемства (населены пункт, дом) высокай эстэтыкі і санітарнай культуры».**

Гэтыя знакі ўжо прысуджаны мінулагоднім пераможцам. Героямі дня сталі жыхары вёсак Нікуліна, Шапялёўка і «чарнобыльскага» пасёлка Лазурны. Сярод прадпрыемстваў лепшымі аказаліся Паршынская малочнатаварная ферма племсаўгаса імя Чкалава, Хамініцкая — калгаса імя Леніна і цэнтральныя майстэрні калгаса «Савецкая Беларусь». Пераходныя знакі ўручаны і групе домаўладальнікаў.

**Міхаіл УЛАСЕНКА.**

### АДРАДЖАЮЦЦА АРМЕЙСКІЯ ТРАДЫЦЫІ

Загадам міністра абароны Рэспублікі Беларусь генерал-лейтэнанта Леаніда Мальцава дваццаць тры ветэраны Вялікай Айчыннай вайны, Узброеных Сіл, удзельнікі лакальных войнаў і ваенных канфліктаў залічаны ў спісы асабовага саставу і ганаровымі салдатамі ў воінскія часці і падраздзяленні. Зроблена гэта ў мэтах умацавання гераічных традыцый Узброеных Сіл, а таксама для выхавання на іх воінаў, што праходзяць сёння службу ў шэрагах беларускай арміі.

**Аляксандр МАКАРАЎ.**

### З НОВАЙ ДЗЯРЖАЎНАЙ СІМВОЛІКАЙ

**У красавіку-маі гэтага года ў рэспубліцы пачнецца выдача грамадзянам Беларусі пашпартоў з новай дзяржаўнай сімволікай.**

Пра гэта БелаПАН паведамілі ва ўпраўленні пашпартна-візавай службы Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі. Выдача пашпартоў пачнецца практычна адначасова ў сталіцы рэспублікі і ўсіх абласцях. Пакуль жа на руках у насельніцтва знаходзіцца каля 100 тысяч беларускіх пашпартоў з выявай герба «Пагоня», выдадзеных органамі ўнутраных спраў толькі жыхарам Мінска і Мінскай вобласці, а таксама пашпарты перыяду СССР.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ, БелаПАН.**

### СУВЯЗЬ БЕЗ БРАКУ

**Нядаўна бярозаўскімі сувязістамі быў падпісаны кантракт з фірмай «Іскратэл» са Славеніі на пастаўку новага абсталявання — станцыі SI-2000.**

Старшыня райвыканкома І. Малейцін і прадстаўнік фірмы пан О. Ібрішбеговіч сваімі подпісамі змацавалі дагавор, у якім абумоўлены час пастаўкі абсталявання сучаснага сусветнага стандарта і яго мантаж, а таксама аплата.

Кошт станцыі — каля 580 тысяч долараў, без уліку затрат на лінейна-кабельную гаспадарку. 3,8 мільярда рублёў даў Бярозе Брэсцкі АПТУС, астатнія сродкі сувязісты плануюць атрымаць ад насельніцтва і гаспадарнікаў. На разліковы рахунак ужо паступаюць сродкі ад тых, хто жадае мець у сябе сувязь сучаснага сусветнага стандарта: частотны код набору, канферэнц-сувязь па тэлефоне для 30 абанентаў, сувязь без набору нумара і г.д.

Новая станцыя зойме ўсяго 15 кв. метраў у цэнтральным вузле электрасувязі і ўступіць у строй дзеючых у верасні гэтага года. 5500 абанентаў атрымаюць сувязь — практычна ўсе жыхары горада і раёна.

**Людміла ГІЛЕВА.**



## САКАВІК

Фота Уладзіміра БАТАЛІНА.

***У старажытным Рыме месяц «martius», калі верыць легендзе, абвясцілі Ромул і Рэм у гонар бога сонца і вайны Марса, апекуна земляробства і жывёлагадоўлі. У беларусаў усё значна прасцей: наша назва гэтага месяца паходзіць ад слова «сок», які ў гэты час пачынае інтэнсіўна рухацца ў дрэвах. Першы месяц вясны доўгі час у пару язычніцтва лічыўся першым месяцам года.***

### НАРОДНЫ КАЛЯНДАР

**2. Дзень Фёдара Тырана.** Успрымаўся сялянамі як заступнік ад зладзеяў. Яму служылі імшу людзі, у якіх што-небудзь было ўкрадзена.

**4. У каталіцкіх святцах — Казімір.** «На Казіміра зіма паміраe», — гавораць у Заходняй Беларусі.

**9. Янка.** Гэты дзень яшчэ называецца Абертас (Паўраценне). У царкоўным календары — свята адсячэння галавы Іаана Хрысціцеля. Асабліва шанаваўся пчалярамі: лічылася, калі пчолы дажылі да гэтага дня — значыць ужо выжывуць. Сяляне казалі, што ў гэты дзень мядзведзь пераварочваецца ў берлагу на другі бок.

**10. Сорак пакутнікаў (Прыска) па каталіцкім календары.** Свята сустрэчы птушак. «На святога Прыску праб'е лёд і пліска».

**13. Васіль і Марына.** У гэты дзень забаранялася прасці. Лічылася, што можна «адслініць замураваную зіму», і тады зноў вернуцца халады.

**14. Аўдакей (Аўдакея).** У многіх раёнах першы дзень вясны. Прыкмячалі, ці нап'ецца з-пад страхі вол ці певень: калі нап'ецца — вясна будзе добрая.

**17. Герасім Гракоўнік.** Дзень прылёту гракоў. Існуе прымета: гракі сядзяць ужо ў гнёздах — да дружнай вясны. Калі лётаюць бязмэтна або зусім не відаць — вясна будзе павольная ці позняя.

**19. Язэп.** «Як святы Язэп кіўне барадою, дык зіма ўцякае ўніз галавою».

**22. Саракі (Сорак Пакутнікаў па праваслаўным календары).** Лічылася, што ў гэты дзень прылятае 40 «выраяў», і канчаткова прыходзіць вясна.

**25. Рыгор.** «На Рыгора рэкі ідуць у мора». У католікаў — Звеставанне (Благавешчанне).

**30. Аляксей Цёплы.** «На Аляксея зіма пацее». Лічыцца цёплым вясновым днём. Чакаюць прылёту жураўля ці бусла.

*ПАРЛАМЕНЦКІ ДЗЁННІК*

## ВЯРХОЎНЫ САВЕТ ЗАВЯРШАЕ РАЗГЛЯД ПАДАТКОВАГА ЗАКАНАДАЎСТВА

29 лютага на сесіі Вярхоўнага Савета Беларусі ў «Розным» запісаліся выступіць восем дэпутатаў. Уладзімір Белякоў гаварыў аб дрэнным стане здароўя беларускіх дзяцей, зазначаючы, што ў многіх з абследаваных маленькіх мінчан канцэнтрацыя ў крыві цынку і іншых шкодных рэчываў перавышае дапушчальныя нормы. Такая ж самая сітуацыя ў іншых экалагічна небяспечных гарадах Беларусі. Для аздараўлення беларускіх дзяцей патрэбна сума ў 500 мільярдаў, якой, зразумела, няма...

Уладзімір Нісцюк зазначыў, што пасля звальнення А. М. Абрамовіча з пасады старшыні Цэнтрвыбаркома дзейнасць гэтай установы замарозілася, дасюль не вырашаны лёс двух мандатаў абраных у Віцебску і Мінску дэпутатаў — Гаркунова і Дракі. Таму У. Нісцюк прапанаваў як найхутчэй вылучыць кандыдатуру новага старшыні ЦВК і рэанімаваць дзейнасць гэтай камісіі. Дэпутат С. Багданкевіч папрасіў парады ў калег, як пазбавіцца яму ад павышанай увагі выканаўчай улады да яго асобы. С. Багданкевіч нядаўна быў пазбаўлены магчымасці весці прыём сваіх выбаршчыкаў у Кастрычніцкім райвыканкоме Мінска і вымушаны быў дамовіцца аб правядзенні прыёму ў школе № 90 г. Мінска, аднак улады і гэта забаранілі. Сустракаўся С. Багданкевіч з выбаршчыкамі на вуліцы... Дэпутат назваў гэты факт свавольствам...

Віктар Ганчар зачытаў тэкст адказу новага Генпракурора В. Капітана на запыт аб незаконным скасаванні ў Мінску раённых Саветаў, ажыццёўлены мэрам Мінска У. Ярмошыным на падставе адпаведных прэзідэнцкіх указаў. Пракуратура адрасавала У. Ярмошыну прадстаўленне аб неабходнасці аднаўлення законнасці ў гэтым пытанні, аднак саставу злачынства ў яго дзеяннях не выявіла.

Затым дэпутаты Вярхоўнага Савета вярнуліся да пытання аб унясенні змяненняў у законы па падаткаабкладанню, у прыватнасці ў законы «Аб акцызах», «Аб падатку на нерухомасць», «Аб падаходным падатку на грамадзян». Дэпутаты выключылі артыкул аб падатку на незавершанае будаўніцтва.

Некалькі разоў дэпутаты Вярхоўнага Савета перагаласоўвалі раней зацверджаныя нормы па падатковай сістэме і вярталіся да прапанаваных урадам палажэнняў.

У прыватнасці, вядомы прадпрымальнік А. Клімаў заявіў, што 23 лютага дэпутаты неабдумана прагаласавалі за вызваленне ад падатку даходаў у памеры шасці мінімальных зарплат. Дэпутаты перадумалі і падтрымалі прапанову Кабінета Міністраў не абкладаць падаткам толькі даход у адну мінімальную зарплату. На што прадстаўнік фракцыі ПКБ Валерый Шчукін зазначыў, што 600 тысяч сёння гэта менш, чым ранейшыя 70 рублёў, і, каб папоўніць бюджэт, трэба браць больш падаткаў з капіталістаў, укалоўшы гэтым А. Клімава...

**(Заканчэнне на 3-й стар.)**

*БЕЛАРУСЬ—РАСІЯ:*

## «ПАЧЫНАЦЬ З НУЛЯ ВЫГАДНА АБЕДЗВЮМ ДЗЯРЖАВАМ»

Першы афіцыйны візіт у Расійскую Федэрацыю быў прамежкавым, а асноўны буйнамаштабны дакумент паміж Беларуссю і Расіяй будзе падпісаны ў сакавіку. Аб гэтым заявіў Аляксандр Лукашэнка на заключнай прэс-канферэнцыі, падводзячы вынікі свайго знаходжання ў Маскве. Ён таксама заявіў, што ў ходзе візіту былі рэалізаваны тыя праекты, якія абмяркоўваліся ў час перагавораў з Барысам Ельцыным у Сочы. Тады, паводле яго слоў, былі абмеркаваны канцэптуальныя напрамкі інтэграцыі паміж дзвюма дзяржавамі.

Што ж за дакумент будзе падпісаны ў сакавіку? Назвы яго пакуль што няма. Вядома толькі, што менавіта ў ім будуць зафіксаваны такія палажэнні, як стварэнне міждзяржаўных органаў, якія, на думку Аляксандра Лукашэнкі, павінны быць наддзяржаўнымі. Кіраўнік Беларусі ўнёс таксама прапанову аб стварэнні агульнага бюджэту для фінансавання сумесных праграм, напрыклад, па ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай катастрофы або па выпуску прадукцыі, неабходнай у роўнай меры для абедзвюх дзяржаў.

Дарэчы, беларуская дэлегацыя на чале з Прэзідэнтам наведала Краснагорскі завод, буйнейшае ў Расіі прадпрыемства оптыка-механічнай галіны. У час гэтай сустрэчы было прынята рашэнне падрыхтаваць схему супрацоўніцтва прадпрыемства з аналагічнымі заводамі ў нашай рэспубліцы. Мяркуецца, што ў бліжэйшы час з гэтай схемай у Мінск прыедзе дырэктар Краснагорскага завода, ураджэнец Беларусі, які доўгі час працаваў у рэспубліцы.

Прадстаўнікі беларускай дыяспары ў Маскве выказалі сваю падтрымку Прэзідэнту рэспублікі і яго намерам па частцы інтэграцыйных працэсаў з Расіяй. А слова «яднанне» гучала на гэтай сустрэчы не адзін раз. Аргументаў на карысць збліжэння дзвюх дзяржаў было выказана нямала, але галоўны з іх — узняць эканоміку, выйсці з крызісу можна толькі разам. «Вырашаць гэту праблему ў адзіночку — пустая справа», — лічыць Аляксандр Лукашэнка. Зрэшты, паводле яго ж слоў, ён не мае намеру адмаўляцца ад больш шырокага паняцця інтэграцыі. Больш таго, толькі эканамічная інтэграцыя наогул не можа быць рэальнай без паралельнай інтэграцыі ў палітычнай галіне, без ваенна-тэхнічнага, культурнага і іншага супрацоўніцтва.



*НА ЗДЫМКУ: у час сустрэчы Аляксандра ЛУКАШЭНКІ з прэм'ер-міністрам Расіі Віктарам ЧАРНАМЫРДЗІНЫМ.*

Гэта якраз і адлюстравана ў сумеснай заяве кіраўнікоў дзяржаў. У ёй, у прыватнасці, адзначана, што павінна быць узгодненая палітыка Беларусі і Расіі ў правядзенні эканамічных рэформаў, збліжэнні нацыянальных заканадаўстваў і стварэнні сумесных органаў кіравання. Менавіта гэта дапаможа стварыць роўныя ўмовы і магчымасці для вытворцаў і вырашыць цэлы комплекс праблем, з якімі цяпер не могуць паасобку справіцца не толькі суб'екты гаспадарання. Бо сёння неабходны сумесныя намаганні для вырашэння шматлікіх сацыяльных праблем: выраўноўвання ўзроўняў пенсіённага забеспячэння, матэрыяльнай дапамогі ветэранам вайны і працы, падтрымкі інвалідаў і малазабяспечаных слаёў насельніцтва.

Адным з галоўных вынікаў візіту Аляксандр Лукашэнка назваў падпісанне пагаднення аб урэгуляванні прэтэнзій фінансавага характару. Па стану на 1 студзеня 1996 года Расія спісала беларускія даўгі за энерганосьбіты, а гэта складае каля 1 мільярда 300 мільёнаў долараў ЗША. Усе гэтыя грошы, паводле слоў Прэзідэнта, можна разглядаць як прамыя інвестыцыі ў эканоміку рэспублікі. І цяпер на пэўны час можна даць беларускім прадпрыемствам некаторую перадышку. Зрэшты, як заявіў Прэзідэнт, Расія не паднесла Беларусі такім чынам падарунак, тым больш, што наша рэспубліка ніколі не была «гірай для расійскай эканомікі». Прычына ж вялікай запазычанасці перад Расіяй — недальнабачная палітыка ранейшых кіраўнікоў дзяржавы. І вось цяпер з'явілася тая аснова, калі можна нанава, на прыблізна роўных умовах, пачынаць супрацоўніцтва.

Пасля заканчэння візіту ў Маскву кіраўнік дзяржавы вылецеў у Ніжнявартаўск. Гаворачы аб мэце свайго наведання гэтага расійскага рэгіёна, Аляксандр Лукашэнка назваў тры ключавыя моманты. Па-першае, ён мае намер вывучыць працэс перапрацоўкі нафты з моманту здабычы і разгледзець аптымальныя варыянты стварэння сумесных прадпрыемстваў па нафтаперапрацоўцы. Па-другое, рынак Расіі, паводле яго слоў, гэта не толькі Масква і Санкт-Пецярбург. Таму вельмі важна сустрэцца з кіраўнікамі і іншых рэгіёнаў суседняй дзяржавы, каб даведацца аб канкрэтных магчымасцях пастаўкі туды беларускіх тавараў. І нарэшце, у гэтым рэгіёне пражывае вялікая колькасць беларусаў, і настаў час яму як кіраўніку дзяржавы сустрэцца са сваімі землякамі і адказаць на тыя пытанні, якія, несумненна, у іх з'явіліся.

**Аляксандр ЛЮШКЕВІЧ, Генадзь СЯМЁНАЎ (фота). БЕЛТА.**

*КРЫК ДУШЫ*

### Не выконваюць указ Прэзідэнта

Мы даведаліся, што ёсць указ Прэзідэнта ад 29 снежня 1995 года.

У гэтым указе сказана, што ў сувязі з павышэннем мінімальнай заработнай платы трэба выплаціць работнікам бюджэтных арганізацый 50 працэнтаў стаўкі. Наш раённы аддзел адукацыі сабе, зразумела, налічыў гэтыя грошы і атрымаў, атрымаў і Дом піянераў, райвыканком, міліцыя, нарсуд, запаведнік. А настаўнікам сказалі, што мы звярнуліся вельмі позна.

Ці ж мы не такія, як яны? Мы жывём у гэтай зоне, як адкіды грамадства, нас і так кругом абдзяляюць. Няўжо да нас нікому няма справы? Зарплату атрымліваем са спазненнем на месяц. А за студзень, хоць у рана ёсць новыя стаўкі, зарплату нам налічылі па старых. Між іншым, сёння ўжо 19 лютага. Ва ўказе Прэзідэнта сказана, каб арганізацыі разлічыліся са сваімі работнікамі да 10 лютага. Ці ў нас указы Прэзідэнта толькі друкуюцца і не выконваюцца? Да якога часу мы будзем знаходзіцца на дне?

**Настаўнікі школ №№ 1, 2, 3, 4 і сельскіх школ Хойніцкага раёна.**

*З ЮБІЛЕЕМ!*

## Настаўнік! Дзякуй, што вы ёсць!

### *Доктару філалагічных навук, прафесару Барысу СТРАЛЬЦОВУ — 70 гадоў*



«Скажы, хто твой настаўнік, і я скажу, хто ты!» Да такой простай жыццёвай высновы я, прабачце мяне за нясціпласць, дадумаўся сам. І, прабачце яшчэ раз, маю на гэту выснову і падставы, і аргументы, і права...

Барыс Васільевіч Стральцоў. Няма сёння ў беларускай нацыянальнай журналістыцы рупліўцы, які б не вучыўся, давучваўся ці перавучваўся ў гэтага мудрага, сумленнага, разумнага, etc, etc, etc. — Чалавека, Журналіста, Вучонага. **Вучыўся** — азам нашай нялёгкай, няпростай, але такой патрэбнай грамадству прафесіі. **Давучваўся** — разуменню найскладанейшых праблем існавання чалавечай супольнасці. **Перавучваўся** — поглядам на рэаліі жыцця, якія (так ужо наканавана нам Богам) то мяняюцца, то «ўдасканальваюцца», то проста падсоўваюцца часам у якасці фальшыўкі, у якой ой як няпроста разабрацца... І ўсё гэта незалежна ад узросту, вопыту, становішча маіх калег — у жыцці, грамадстве, той ці іншай сітуацыі.

На факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта амаль 30 гадоў назад ён прыйшоў са «Звязды». **Са «Звязды»** — і гэтым было сказана ўсё! «Звязда» з'яўлялася сапраўдным тагачасным флагманам журналістыкі і ў настаўнікі вылучала, вядома ж, лепшых сваіх людзей.

Мне пашчасціла працаваць і блізка ведаць многіх з тых, хто шчыраваў на звяздоўскай ніве разам з Барысам Стральцовым. Яны расказвалі многія цікавыя выпадкі з яго журналісцкай дзейнасці, успаміналі творы. А адна з былых паплечніц — Соф'я Садоўская — яшчэ ў 1968 годзе напісала ў кнізе «Наша «Звязда» наступнае:

«Прыехаў з камандзіроўкі Барыс Васільевіч Стральцоў і адразу сеў за пішучую машынку. У кожнага журналіста свая манера, свой стыль работы. Барыс Стральцоў вызначаецца здольнасцю шырока ахопліваць падзеі, беспамылкова вызначаць у іх самае галоўнае. А той маланкавай хуткасці, з якой ён працуе, зайздросцяць многія журналісты.

Лётаюць пальцы па клавішах машынкі, але думкі абганяюць іх. І я ўпэўнена, што вечарам Барыс Стральцоў пакладзе на стол рэдактара нарыс. І гэта будзе глыбокі, пераканаўчы матэрыял, напісаны з сапраўдным мастацкім густам і журналісцкім тактам».

Барысу Васільевічу — семдзесят! Ужо семдзесят? Яшчэ толькі семдзесят! Напісаны дзесяткі падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў па журналістыцы, мастацкіх рэчаў, сотні твораў публіцыстыкі. Не маю я маральнага права ацэньваць творчасць Настаўніка, але адно ўсё ж скажу: яна — праўда аб жыцці. Бо ведае яго (жыццё) Барыс Стральцоў вельмі і вельмі глыбока, дасканала, праўдзіва.

Настаўнік! Нізкі Вам паклон. Дзякуй Богу, што Вы сустрэліся нам на шляху! Зярняты вашай мудрай навукі трапілі ў нашы ўдзячныя сэрцы глыбока і надзейна. І мы ганарымся Вамі!

**Ад імя звяздоўцаў сямідзесятых—дзевяностых гадоў**

**Анатоль МЯСНІКОЎ, кандыдат гістарычных навук, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь.**



***ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ!***

***Нагадваем вам, што праз некалькі дзён закончыцца ПАДПІСКА НА «ЗВЯЗДУ» на другі квартал 1996 года. Спяшайцеся!***

***Падпісная цана на квартал — САМАЯ ТАННАЯ з усіх штодзённых беларускіх газет: 40.800 рублёў на квартал і 13.600 — на месяц.***

*ПРЫЗНАННЕ ЧЫТАЧА*

### «Звязду» выпісваю пяць дзесяткаў гадоў...

І зараз падпісаўся ізноў. Чаму мне падабаецца «Звязда»? Ды ўжо хаця б таму, што гэта адзіная беларуская газета, якая яшчэ ніколі не здраджвала сваёй моўнай традыцыі. Сёння мова родная знаходзіцца ў цяжкім стане. Многія ад матчыных слоў адцураліся.

Але ж ёсць і змагары за захаванне, зберажэнне шматпакутнай матчынай мовы. З вялікай асалодай прачытаў у «Звяздзе» гутарку з пісьменнікам Г. Далідовічам, выступленне паважанага Н. Гілевіча. Ёсць жа яшчэ верныя сыны нашай Радзімы! Пераканаваны: пакуль будзе жыць хоць адзін сапраўдны беларус — будзе жыць і наша мова. Бо мова — гэта кроў нацыі. Чалавек, які страчвае кроў, памірае. Народ, страціўшы сваю мову, памірае як нацыя.

Я падзяляю погляд Леаніда Лойкі, што «стрыжнем афіцыяльнай ідэалогіі Рэспублікі Беларусь павінен стаць нацыянальна-дзяржаўны патрыятызм», бо іншай ідэі, вакол якой мог бы згуртавацца беларускі народ, каб вывесці краіну з глыбокага крызісу, стварыць матэрыяльныя, адрадзіць духоўныя каштоўнасці, заняць «свой пачэсны пасад між народамі», проста не існуе.

**Іван БЯЛЯЎСКІ, пенсіянер,**
*в. Вішнева, Смаргонскі раён.*

